Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

# СЯЛЯНСКАЯ ПРАЎДА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Цана асобнага нумару 20 грош.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12, m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

Падпіска на **адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 зл.** Для заграніцы ўдвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту ў 1 шп.

№ 27. Вільня, Нядзеля, 30-га лістапада 1924 г. Год I.

## Аб „лепшых часох“.

Прыглядаючыся і прыслухоўваючыся да настрояў нашага сялянства, можна ўсюды заўважыць адну агульную рысу: гэта — *чаканьне нейкае глыбейшае перамены*, якая б зрабіла непатрэбнай тую штодзенную барацьбу за самыя элемэнтарныя людзкія і грамадзкія правы, што прымушана вясьці беларускае насяленьне ў межах Польскае Рэспублікі.

Надзея на такую перамену, якая-бы адным махам зьніштожыла ўсё зло нашага сучаснага жыцьця, выяўляе *жаданьне* нашага народу ў гэтым напрамку. Але нямашака ніякіх падставаў судзіць аб тым, *як скора* ёй можа быць суджана зьдзейсьніцца. А што, калі сучасны стан зацягнецца на доўгія гады?

Ня маючы магчымасьці прарочыць ход выпадкаў, мы павінны хутчэй спадзявацца благога, чым добрага. Лішне рожавыя спадзяваньні на *блізкую* будучыну робяць тое, што людзі не дацэніваюць, як сьлед, гэнае штодзеннае барацьбы, якую мы *павінны* вясьці, напружаючы ўсе свае сілы, калі хочам *ператрываць да „лепшых часоў“*.

Есьцека ў нас дзьве такія справы, якія вымагаюць асаблівае ўвагі нашага сялянства: гэта—*справа школы і справа самаўраду*.

За школу ў роднай мове барацьба ўжо йдзе. Але часта-густа нашы сяляне не выяўляюць патрэбнае энэргіі: спадзяючыся на „лепшыя часы“, яны баяцца сягоньня „наразіцца“ ўладзе, якая варожа адносіцца да дамаганьня беларускае школы. А тымчасам мінаюць дні, тыдні, месяцы,—і нашы дзеці ходзяць у польскія школы, дзе ў іх стараюцца „выбіваць беларускі дух“ і „рабіць іх палякамі“. Так калечацца душы дзіцячыя, так сыноў і дачок нашых адрываюць ад бацькоў, роднае вёскі і беларускага народу....

Тое-ж з самаўрадамі.

Новы міністар унутраных спраў, п. Ратайскі, заявіў карэспандэнтам газэт, што галоўнай сваей задачай ён стаўляе правядзеньне ў Сойме законаў аб гмінным, павятовым і мястовым самаўпраўленьні. Але гэта будзе зьдзейсьнена йшчэ ня хутка,—дый лепш было-б, каб кернікаўскія праекты законаў аб самаўрадзе зусім сьвету божага ня ўбачылі: для Заходняй Беларусі яны праяктуюць нейкую фікцыю самаўрадаваньня, у якой галоўным гаспадаром у нашым жыцьці, як і дагэтуль было, мае быць *пан староста*...

Пасьля новага году ў нас будуць перавыбары гмінных рад і соймікаў—яшчэ, хіба, па старым законам. Вось-жа, замест лятуцець аб блізкім надыходзе „лепшых часоў“ і бязьдзейнічаць, трэба нам выявіць вялізарную энэргію, каб *заваяваць самаўрады*, каб—хоць-бы й тымчасова—намі і далей не гаспадарылі абшарнікі і паны старасты. А то вось якія рэчы дзеяліся ў нас дагэтуль.

Для прыкладу—вялейскі соймік. Перад выбарамі прадстаўнікоў ад гмінных рад „самаўрадавы інструктар“ аб'ехаў усе гміны і агітаваў за тое, каб гмінныя рады — *дзеля карысьці самых-жа гмінаў*—выбіралі ў соймік сваіх войтаў. Агітацыя дала „добрыя“ вынікі: ў вялейскім сойміку — побач з панамі—засядалі, пераважна, гмінныя войты, каторыя, як *падлягаючыя старосьце ўрадоўцы*, нават пікнуць ня сьмелі супраць свайго „начальства“! Вось дык „прадстаўнікі“ народу—служкі пана старосты! А тым часам запраўдныя барацьбіты за свой народ маглі-бы значную карысьць прынесьці сваім выбаршчыкам—ці то ў справе адваяваньня беларускае школы, ці ў справядлівай раскладцы гмінных і павятовых цяжараў—ня толькі на сялян, але й на абшарнікаў!

Нашае сялянства павінна зразумець, што і прыход „лепшых часоў“ будзе залежаць ад *нашае сьвядомасьці, нашае сілы, нашае арганізованасьці*. Вось-жа апанаваньне школы і самаўрадаў—гэта і ёсьць узмацаваньне нашых сіл, нашае арганізованасьці, гэта ёсьць стварэньне магчымасьці ўзгадаваць нашых дзяцей у такім духу, каб яны, сьпяваючы польскую песьню „nie damy ziemie, skąd nasz ród“, называлі сябе ня „польскім“ людам, а *беларускім*.

Такой штодзеннай працай, такім няўстанным заваёвываньнем месца для беларушчыны ў-ва ўсіх галінах нашага сучаснага жыцьця—мы толькі і можам тварыць падставу для „лепшых часоў“. Інакш гэныя „лепшыя часы“ лёгка могуць прайсьці *міма нас*!

---

**У працягу другога месяца дзейнасьці языковых законаў, лістапада, як і ў працягу першага—кастрычніка, польскі ўрад не адчыніў ніводнае беларускае школы.**

**Усе прыгавары і просьбы сялян аб беларускія школы ўладай адкінены.**

**Прымус пасылаць беларускіх дзяцей у польскія школы трывае далей. За непасылку—штрафы.**

**У Вільні з дзьвюх захаваўшыхся дагэтуль беларускіх пачаткавых школ адна зачынена. На месца яе адчынена польская школа.**

**Дазволу на адкрыцьце Беларускай Цантральнай Школьнай Радай вучыцельскіх курсаў урад дагэтуль ня даў.**

---

## Забытая кніжка.

Калі пецярбурская выдавецкая суполка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ распачынала сваю працу пятнаццаць гадоў назад, яна вельмі правільна паставіла на першым месцы выданьне твораў тых нашых аўтараў. на якіх вырасьлі першыя пакаленьні барацьбітаў за беларускую справу.

Да лічбы такіх аўтараў належыць бясспрэчна і Вінцук Дунін-Марцінкевіч, хаця з боку ідэалягічнага ён нам нічога ня даў, але захаваная ў яго мастацкіх творах краса сама прамаўляла ў роднай мове нашай да нашага сэрца і будзіла ў ім гарачую любоў да Бацькаўшчыны, любоў, гатовую на вялікія ахвяры.

Але пецярбурская суполка выдала толькі эпічныя творы Марцінкевіча, моўчкі прайшоўшы міма яго драматычных твораў. Тым часам іменна драматычная творчасьць Марцінкевіча мае гістарычнае значэньне: ён—тварэц, бацька сучаснага беларускага тэатру — і як аўтар раду п'ес, і як сцэнічны дзеяч.

З трох вядомых нам п'ес Марцінкевіча: „Залёты“, „Пінская шляхта“ і „Сялянка“—зьявіліся ў друку за апошнія гады толькі дзьве першыя. „Сялянка“-ж,*) якая была надрукавана ў Вільні, ў друкарні Завадзкага ў 1846 годзе (напісана не пазьней пачатку 1844 году),—прадстаўляе цяпер вялікую бібліаграфічную рэдкасьць і зусім недаступна дасьледчыкам. А тым часам гэта дужа характэрны дзеля марцінкевічаўскае эпохі твор, які адзін толькі—у пяцьдзесятых гадох — і быў пастаўлены на сцэне пры жыцьці аўтара, іграўшага роль войта Наума. „Сялянка“ была пастаўлена, як апэрэтка, і музыку да яе напісаў зямляк і прыяцель Марцінкевіча, найвялікшы музыка нашага краю, Станіслаў Манюшка.

Ноты арыяў Манюшкі ці прапалі, ці мо' пайшлі ў сьвет часткамі, як асобныя песьні. Друкаваны ж экзэмпляр „Сялянкі“ Марцінкевіча перахоўваецца ў кніжным аддзеле беларускага музэю ім. Івана Луцкевіча ў Вільні.

Гэта—невялічкая кніжачка, фармату малой шаснасткі, 109 страніц, надрукаваная лацінікай. Характэрна ў ёй тое, што, як у тыя часы і было на дзеле, па-беларуску гавораць толькі сяляне і жыды, а паны ўжываюць польскае мовы.

Сёлета 30 (а па стараму стылю 17) сьнежня мінае 40 гадоў ад дня сьмерці „Бацькі“ новага беларускага тэатру. Гожа было-бы памянуць яго з гэтае нагоды, узнавіўшы пастаноўку на сцэне яго твораў (да „Залётаў“ напісала музыку нядаўна памершая ў Вільні Марыя Кімонтовая). А йшчэ лепш было-бы перадрукаваць першы напісаны Марцінкевічам, але няведама чаму прызабыты твор яго—„Сялянку“.

**Ант. Навіна.**

# Палітычны агляд.

## У Польшчы.

### Канфэрэнцыя прэм'ера з лявіцай.

27/XI адбылася канфэрэнцыя прэм'ера Грабскага з прадстаўнікамі клюбаў польскай лявіцы: P. P. S., N. P. K., „Związ. Chł.“ і „Wyzwolenie“.

Канфэравалі ў справе... рэалізацыі зямельнай рэформы. Устаноўлены тэрмін падачы ўрадам у Сойм зямельнага законапраекту на 10/XII с. г. Канфэрэнцыя паразумелася на тым, каб усе беззямельныя, малазямельныя, жаўнеры-ахвотнікі і адзначаныя ваеннымі ордэнамі жаўнеры карысталіся ўсімі правамі на атрыманьне зямлі—паводле закону 15 ліпня 1920 г.

З таго, што ў справе „Крэсаў“ на канфэрэнцыі гутаркі ня было, відаць, што польская лявіца зусім згодна з сваім урадам у гэтай справе! Значыць, перашкод у „ўсьмірэньні„ „Крэсаў“ з боку лявіцы ня будзе!

### Яшчэ канфэрэнцыя ў п. Тугутта.

26/XI віцэ-прэм'ер канфэраваў в. доўга з мініcтрам унутр. спраў п. Ратайскім—у справах... „усходніх ваяводзтваў“ (бо-ж „Крэсаў“ ужо няма—зусім скасаваны!) Пасьля п. Тугутт канфэраваў з сваімі былымі сябрамі на так-званай „камісіі 4-х“ (экспэртаў у справах б. „Крэсаў Усходніх“)—п. Юндзілам, старшынёй саюзу палякоў усходніх зямель і львоўскім адвакатам паляком Левэнгэрцам.

Ня было, на жаль, чацьвёртага і галоўнага сябра камісіі: п. Станіслава Грабскага.

Аб чым канфэравалі паны „Geheimraty“,—няведама—на тое-ж і „камісія 4-х“.

### „Аўтаномія“ ці „вынятковы стан“?

Соймавы клюб „PPS“ „nosi się z zamiarem, (як дасьціпна фармулюе „Kur. Pol.“) падаць у адміністр. камісію праект аўтаноміі для „Усходніх Крэсаў“, але толькі на выпадак, калі-б у тую-ж камісію быў пада-

---

*) Поўны тытул яе: „Sielanka, opera we dwóch aktach, napisana przez Wincentego Dunina-Marcinkiewicza. Druk. Józefa Zawadzkiego, Wilno, 1846 r.“

дзены праект увядзеньня на тых-жа „Крэсах“ выняткавага стану.

Калі ня мыляемся, апошні праект ужо даўно па-дадзены ў камісію эндэкамі і мае разглядацца ў бліжэйшым часе, як гэта абяцаў сам старшыня камісіі. Дык чакаем праекту PPS!..

А што-ж зробіць камісія? Можа злучыць абодва праекты ў адзін, каб пагадзіць пэпээсаў з эндэкамі і—зрабіць адзіную магчымую—пры сучасным крэсавым рэжыме—„аўтаномію... корпусных акругоў“, за якую маглі-б галасаваць усе польскія партыі і ў камісіі, і ў Сойме.

### Ізноў рэквізыцыя кватэраў.

Урад падаў у Сойм законапраект аб узнаўленьні права рэквізіцыі прыватных памяшчэньняў для афіцэраў і жанатых падафіцэраў... Што гэта значыць для нашых „Крэсаў“, дзе афіцэры трымаюць сябе, як заваявальнікі,—гэта ўжо добра ведама ўсім...

### Блёк „левых людоўцаў.

Клюбы „Wyzwolenie“ і „Związek Chłopski“ пастанавілі ў Сойме выступаць салідарна.

### Канфэрэнцыя расейскіх эсэраў з польскімі сацыялістамі.

22 і 23 лістапада ў Цешыне Чэшскім адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў расейскіх с-р і польскай партыі сацыял. (P.P.S.).

Пастаноўлена: бароцца проці мілітарызму; імкнуцца да збліжэньня польскага і расейскага народаў; ня ўмешывацца ў унутраныя справы адзін аднаго; ня імкнуцца да зьмены „рыжскай граніцы“ аружнымі спосабамі; устанавіць сталую сувязь паміж сацыялістамі ўсходняе Эўропы і — бароцца да сьмерці з камунізмам!

Было шмат скаргаў на палажэньне „obcokrajowców“—расейцаў у Польшчы. Пэпээсы абяцалі, што „гэтага больш ня будзе“...

Для нас, беларусаў, найцікаўнейшым у-ва ўсім гэтым была рашучая пазіцыя расейскіх с-р у справе Рыжскага Трактату: С.-Р. заявілі, што не прызнаюць „рыжскай граніцы , інакш кажучы — падзелу Беларусі.. Аднак ураз-жа дадалі, што „ня будуць аружнай сілай папраўляць гэтай граніцы“...

I слушна: бо перад усім... гэтай сілы ня маюць!

### Да справы аб лунінецкім нападзе.

Як ведама, даразны суд у Пінску, нават не разглядаючы справы 23/X „бясспрэчных учасьнікаў“ нападу, зараз-жа аддаў усю справу ў звычайны суд. А 2-х абвінавачаных, аб якіх польская прэса пісала, што проці іх былі вельмі цяжкія закіды і паказаньні сьведкаў-паліцыянтаў, суд зараз-жа выпусьціў на волю, як **зусім відавочна нявінных.**

Суд звольніў Курыловіча і Соца, як нявінных. Але, як мы даведаліся толькі цяпер, адзін з гэтых прызнаных судом нявінным — Курыловіч, зараз-жа і тут-жа быў ізноў заарыштаваны паліцыяй — ужо пад закідам „шпіёнства“.

I ізноў сядзіць,—бо, калі не бандыт, дык шпіён, але каб сядзеў...

### Забастоўка ў Лодзі.

27.XI пачалася забастоўка усіх пральнічна-ткацкіх работнікаў Лодзкага прамысловага раёну.

Работнікі дамагаюцца 23% прыбаўкі; прамыслоўцы не згадзіліся даць яе.

## Заграніцай.

### Ад нас навучыліся.

Нацыян. Меншасьці ў Нямеччыне ідуць на выбарах, як у 1922 г. ў Польшчы, усе разам зблёкаваныя на супольных сьпісках.

Трэба адзначыць, што правадыром гэтага блёку ў Нямеччыне зьяўляецца польская меншасьць... На чале „listy państwowej“ блёку стаіць, як у нас п. Грюнбаўм, hrabia Sierakowski—старшыня саюзу палякоў у Нямеччыне.

Мы памятаем, як заўсёды кляймілі палякі блёк „меншасьцяў“ у Польшчы.—Ведама-ж, готэнтоцкая мараль кажа: бараніцца блёкам у Польшчы проці палякоў—„zbrodnia“, бараніцца тым-жа блёкам паляком у Нямеччыне—гэта патрыятычна!..

### Справа 8 гадзіннага дня працы ў Нямеччыне.

Міністар працы Браўн у сваей прамове заявіў, што нямецкія работнікі, пакуль-што, змушаны працаваць вышэй 8 гадзіннай нормы — пераважна ў так зван. цяжкай прамысловасьці, а перад усім у жалезнай. Толькі палова работнікаў працуе нармальна 8 гадзін. Міністар абяцаў апрацаваць—у паразуменьні з суседнімі дзяржавамі законапраект аб правядзеньні пастаноў Вашынгтонскай Канфэрэнцыі і ў Нямеччыне, ня гледзячы на яе цяжкі эканамічны стан.

Ведама-ж, нямецкаму работніку прыходзіцца плаціць сваей крывавай працай за грахі Людэндорфаў і Ледэбураў (ням. с.-д.), Пуанкарэ і Ізвольскіх — і працаваць цяпер двойчы, выконываючы падпісаны тымі-ж сацыял-дэмакратамі „плян Доўса.

### Прамова канцлера Маркса.

Канцлер Маркс у сваей прамове бараніў пазіцыю і надпартыйны аўтарытэт прэзыдэнта Рэс-

# Канфлікт Англіі з Ягіптам.

### Пратэст ягіпецкага парляманту.

Прыняты парлямантам Ягіпту пратэст проці паступаньня Англіі ў Ягіпце перасланы ў Лігу Народаў і ўрадам усіх дзяржаваў сьвету.

### Адмова Лігі Народаў.

З Жэневы наказуюць, быццам, сэкрэтарыят Лігі адмовіўся пераслаць пратэст Ягіпецкага парляманту ўрадам усіх сяброў Лігі. Сэкрэтар Лігі толькі пацьвярдзіў атрыманьне пратэсту.

### Узбурэньне народу ў Порт-Саідзе.

У Порт-Саідзе народ пачаў бурыцца, з прычыны акупацыйных мераў англійцаў. Натоўп народу разганяюць паліцыя і войска. Выслана эскадра аэрапланаў, якія лётаюць над местам.

### Чуткі аб новым замаху.

Англійскія правакатары шчыра працуюць... з Каіру пушчана чутка аб новым замаху на высокага камісара Англіі, лёрда Аленбі, проці якога быццам зроблена змова ягіпецкімі нацыяналістамі з б. прэм'ерам Заглулам на чале. Дзеля гэтага „прыняты ўсе меры асьцярожнасьці“. Выданы загад, каб усе англійскія ахфіцэры хадзілі па горадзе пад аховай узброеных жаўнераў, — каб усе ўрадоўцы мелі ў сваіх канцэлярыях на сталах рэвальвэры... Па вуліцах ходзяць патрулі.

Адным словам,—у Ягіпце англійцам жыцьцё робіцца весялейшым.—„Настрой крапчэе“...

### Арышты ў Ягіпце.

Ня гледзячы на спакой народу ў Ягіпце, англійскія ўлады „працуюць“. Толькі што арыштаваны 3 выдатныя дзеячы, таварышы Заглула, і вывезены ў няведамым напрамку.

### Яшчэ крэйсэры.

24/XI з Мальты ў Ягіпецкія воды „на маневры“ вышлі яшчэ 3 крэйсары...

### Маніфэст англійскіх работнікаў проці ўраду.

Незалежная работніцкая партыя ў Англіі пратастуе ў сваей адозве проці дзейнасьці англійск. ўраду ў Ягіпце, раўнуючы акупацыю яго з акупацыяй Бэльгіі Нямеччынай у часе вайны.

### Новы прэм'ер згадзіўся на ўльтыматум.

Новы прэм'ер Зівар-паша згадзіўся на дамаганьне англійскага ўраду аб тым, што ахова чужаземцаў і адказнасьць за іх жыцьцё і маемасьць аддаецца англійскай уладзе ў Ягіпце.

Папярэдні ўрад Заглула слушна пратэставаў проці гэтай абразы для ягіп. ўраду, даводзячы, што яшчэ ня было выпадку, каб хаця адзін чужаземец падаў скаргу на благую ахову.

Але-ж ведама, якую важнасьць мае для ўвядзеньня **фактычнай акупацыі** гэтае дамаганьне Англіі!..

## „Ягіпецкая казьнь“ і „Гішпанская трагедыя“.

(*Што нясе Англа ягіпецкі канфлікт?*).

Усе англійскія „Сэйды“, усе англійскія „Дмовскія“ і іх газэты трыумфуюць! нарэшце дачакалася Англія „запраўднага моцнага ўраду“, які,—якраз паводле рэцэпту п. Дмовскага,—пачаў „біць у зубы лотраў“...

Лёндан—ня толькі грашавая, але і „палітычная біржа“—для Эўропы і іншых часьцей сьвету, выключаючы Амэрыку. — Дык англійскі „трыумф“ пайшоў, як хвалі радіо—„всем всем-всем„... — да ўсіх урадаў, усіх „дзяржаўных народаў, усіх „прыраджоных гаспадароў“, якія маюць пад сабой „свае ўласныя“ недзяржаўныя ці паўдзяржаўныя народы і „меншасьці“,—махаць тым, каму могуць фактычна „біць у зубы“.

Адгукнуўся гэты „трыумф бранірованага хамства“ і ў Польшчы — пакуль-што толькі на правым крыле польскае „дэмакратыі“. Завыла, прагавіта ляскаючы зубамі „Хіена“, пачаў аблізывацца, уторачы ёй, і „Пяст“...

Ці-ж ня ясна ўсім, якія запраўды шырокія і „сьветлыя“ пэрспэктывы адчыняе для Польшчы „новая эра“ ў Англіі? „Калі так робіць Англія, дык можна і нам!..“

Вось як адаб'ецца на ўсіх імпэрыялістычных урадах усяго сьвету тое, што робіць Англія з Ягіптам. Тое, што яшчэ так нядаўна рабіла Англія ў Лізе і па-за Лігай, — напрыклад, у часе грэка-італіянскага канфлікту, калі Мусоліні, таксама, як цяпер Балдвін, паслаў свой флёт і акупаваў грэцкі востраў Коржу,—усё гэта выдаецца нейкім далёкім, паўзабытым сном...

---

Але ці-ж дзіва, што трыумфуюць англійскім трыумфам эндэкі ўсяго сьвету!?

Шмат цікаўней паглядзець, як адбіваецца гэты англійскі прыклад на ўрадах **радыкальных**, „лявіцовых“. Клясычным прыкладам гэтых „rządów lewicy“ зьяўляецца калега толькі што зваліўшагася ўраду Мак-Дональда—ўрад Эрыо.

Француская прэса розна, як заўсёды, ацэнівае англійскія здарэньні, але найцікаўнейшы афіцыяльны камунікат выпусьціў іменна ўрад Эрыо.

Камунікат кажа:

„Зусім зразумела заява, што паступаньне Англіі ў Ягіпце рашуча пярэчыць падпісанаму ёю у 1922 г. дагавору з Ягіптам (з прызнаньнем **незалежнасьці** Ягіпту!). Тое, што Англія цяпер адмаўляе Ягіпту права зьвярнуцца да Лігі Народаў, юрыдычна не вытрымлівае ніякай крытыкі. Але... аднашэньне Францыі да ўсей справы канфлікту павінна вызначацца **фактычным станам рэчаў** (гэта значыць: не юрыдычнымі матывамі, **не справядлівасьцяй**, аб якой толькі гутарылі ў Лізе! — але „фактычнымі **адносінамі сілаў** Англіі і Ягіпту!..). Францыя павінна глядзець, каб, з аднаго боку, Ліга Народаў (слухайце, слухайце!) ня страціла свайго аўтарытэту—ў выпадку, калі выступленьне яе—па пачыну Францыі—пацерпіць няўдачу. Але, з другога боку, Францыя,—з увагі на яе адносіны і сувязі з магамэтанскім сьветам,—ня можа жадаць, каб яе англійскі саюзьнік... пацярпеў паражэньне, якое магло-б выклікаць паважныя пасьледзтвы для ўсяго мусульманскага сьвету ў яго **адносінах да вялікіх дзяржаў.**

Дзеля гэтага францускі ўрад і абвяшчае, што будзе кіравацца „вялікай стрыманасьцяй“ адносна да англа-ягіпецкага канфлікту. А ў канцы камунікат п. Эрыо даслоўна паўтарае словы камунікату п. Балдвіна—аб тым, што „дасьлед з 1922 году даказаў няздольнасьць Ягіпту да незалежнасьці“.

Адным словам,—як „з аднаго“ так і „з другога боку“—паразуменьне абодвух галоўных імпэрыялістаў усьсьвету, ня гледзячы на іх „палітычна-партыйны“ кантраст,—поўнае!..

---

Аднак-жа дзіўная рэч: чаму-ж Францыя не скарыстае з цяжкага палажэньня Англіі ў мусульманскім сьвеце ў Азіі, дзе яна заўсёды вяла і вядзе заядлую канкурэнцыю з Англіяй? Бо-ж гэтак Францыя зрабіла, напрыклад, у часе грэка-турэцкай вайны і Лёзанскай Канфэрэнцыі 1922 году, калі — за сьпіной Турцыі — пабіла Англію на ўсіх яе процітурэцкіх пазіцыях!.. Што-ж зьмянілася ў „міжынародавых імкненьнях“ — ці ў „напрамку апэтытаў“ Францыі цяпер, раўнуючы з тым, што было дагэтуль? Дзеля чаго гэтак патрэбны аказаўся для „лявіцовай“ Францыі „прэсьціж“ (павага) вялікіх дзяржаваў у мусульманскім сьвеце—тады, калі, напрыклад, у 1922 годзе яна нават пры правіцовых „жондах“ не баялася гэты прэсьціж Англіі так фатальна падкапаць?.. Ці што здарылася ў мусульманскім сьвеце, цікаўнага для Францыі?

---

Каб зразумець гэта, трэба зьвярнуцца ад Ягіпту зусім у другі бок паўночнай Афрыкі — у бок Марокко.

У гэтым кавалку „мусульманскага сьвету“ пачынае нанава стварацца тая самая небясьпека для вялікіх дзяржаў, з якой Англія пачала такую рашучую барацьбу ў Ягіпце: вызваляецца новы мусульманскі народ (гішпанскія марокканцы!) на руінах былой вялікай дзяржавы.

Вось як аб гэтай небясьпецы для Францыі, калі яна, **апіраючыся на Англію**, пойдзе англійскім шляхам „біцьця ў зубы“ слабейшых,—кажа „геніяльны жаўнер і калёніяльны палітык“ (—камплімэнты „лявіцовага“ „Kur. Polsk.“) маршалак Ліотэй у газэце „Times“.

„Францыя ня можа дапусьціць да ўтварэньня ў Афрыцы—побач з яе Марокко — магутнай і незалежнай мусульманскай дзяржавы,—калі толькі Францыя хоча вясьці далей сваю вялікую цывілізацыйную справу ў Марокко“...

„Kur. Polski“ да гэтага дадае, што Францыя мае і ўсе **юрыдычныя** правы не дапусьціць да гэтага стварэньня.

Бо на моцы... франка-англійскага трактату 1904 году (трактат гэты якраз тады стварыў паміж Францыяй і Англіяй знамянітую „антанту“—што значыць паразуменьне) Англія адмовілася зусім ад прэтэнсіяў на Марокко на карысьць Францыі, якая „абязалася“—акурат, як Англія ў Ягіпце! — „пілнаваць бясьпечнасьці ў Марокко, памагаючы (!) яму ў-ва ўсіх рэформах—адміністрацыйных, фінансава-эканамічных і вайсковых“... Што гэта зна-

публікі, пратэстуючы проці ўмешываньня асобы прэзыдэнта ў выбарную барацьбу.

### Адстаўка Троцкага.

Як падае ПАТ, Троцкі звольнены ад абавязкаў народнага камісара ваенных справаў.

### Прызнаньне ССРР Чэхаславакіяй.

У сваей апошняй прамове — у клюбе народных сацыялістаў—мін. Бэнэш заявіў, што ўрад маніцца юрыдычна прызнаць ССРР, але гэта будзе зроблена ў паразуменьні з усімі партыямі і на пэўных варунках.

### Балта—сталіца Малдаўскай Рэспублікі.

Рэвалюцыйны Камітэт Малдаўскай Сац. Рэспублікі прызнаў м. Балту часовай сталіцай (сталая сталіца Кішынёв знаходзіцца пад уладай Румыніі.

### Перасьледаваньне камуністаў у Латвіі.

У Рызе ў апошнія дні паліцыя пасьля вобыску арыштавала „арганізацыю камуністычнай моладзі"—у ліку 20 асоб. Знойдзена шмат кампрамітуючых дакумэнтаў. (ПАТ).

### „Камуністычная змова" ў Чэхаславакіі.

Чэхаславацкая паліцыя, як пішуць венскія газэты, напала на сьлед вялікай „камуністычнай змовы", якая быццам мела мэтай рад замахаў на вайсковыя ўстановы і г. д. Сядзіба цэнтралі быццам была ў Вене.

### Спатканьне Чэмбэрлена з Эрыо.

Едучы ў Рым на паседжаньне Рады Лігі, англійскі міністар загр. спраў, Чэмбэрлен, заедзе ў Парыж, дзе перад сэсіяй спаткаецца дзеля размовы з прэм. Эрыо.

### Даверые ўраду Эрыо

На апошнім паседжаньні парляманту—пасьля адказу прэм. Эрыо на інтэрпэляцыю ў справе маніфэстацыі камуністаў у часе пераносеньня гробу Жорэса ў Пантэон,—ураду выражана даверые большасьцю 318 галасоў проці 196.

### Скасаваньне катаргі ў Францыі.

Дагэтуль праступнікаў, асуджаных на катаргу („ciężkie więzienie" ў Польшчы) высылалі ў калёніі на прымусовую працу, як у расейскую Сібір. Як Сібір забівала людзей холадам, так некаторыя францускія калёніі славіліся сваім сьмертаносна-гарачым кліматам (француская Гвіана і інш.). Колькі разоў у францускай літэратуры падымаліся галасы за скасаваньне гэтай страшэннай катаргі. Вельмі нашумеў, напрыклад, рад успамінаў, запісак і т. п. сотняў сасланых у Гвіяну дзеячоў Парыжскай Камуны 1871 г.

І вось толькі цяпер Эрыо падняў пытаньне аб скасаваньні гэтай каштоўнай для скарбу, калечучай людзей фізычна і духоўна, не даючай ніякіх карысьцяў дзяржаве катаргі ў калёніях.

Цікава, што бюджэтная камісія адмовілася — „да падробнага разгляду справы" — рабіць якія-колечы зьмены ў бюджэце — у сувязі з новым праектам ураду.

Але на пленуме парляманту ўсе паслы аднагалосна пастанавілі скасаваць катаргу.

Адпаведны праект будзе апрацаваны ўрадам, а пакуль што—ў 1925 г. ссылка ў калёніі будзе спынена.

Добра было-б, калі-б і нашая вялікая суседка рашуча адраклася ад такой-жа праклятай спадчыны царскай Расеі...

### Да крызісу ў Італіі

Сілы ўрадавай большасьці таюць. — Вядомы пісьменьнік і дэпутат з урадавае групы, Сэмэнэльлі, зрокся мандату.

Сэнат не зацьвярдзіў 4 назначаных урадам (каралём!) сэнатараў, што вельмі рэдка здаралася ў Італіі.

### Рэпрэсіі проці партыі Радіча.

Урад пастанавіў арыштаваць і аддаць пад суд—на падставе „закону аб абароне дзяржавы"—усіх 40 дэпутатаў партыі Радіча з віцэ-старшынёй Скупштіны (Сойму) на чале. Усім закідаюцца зносіны з Масквой і з Македонскім Рэвалюцыйным Камітэтам.

### Плян замаху на грэцкага караля.

Румынская паліцыя выкрыла плян замаху на грэцкага караля, які цяпер палюе ў Бэсарабіі. Некалькі западазроных грэкаў арыштаваны. Чыгункі пілнуе войска.

Напэўна паліцыянты атрымаюць грэцкія ордэны.

### Амэрыка спаўняе пастановы Вашынгтонскай канфэрэнцыі.

На моцы пастановаў Вашынгтонскай канфэрэнцыі аб разбраеньні, амэрыканскі ўрад затапіў адзін вялікі браняносец „Вашынгтон"... У прэсе доўга йшлі спрэчкі аб тым, ці варта выконываць гэтыя пастановы аднэй толькі Амэрыцы, калі ні хто, а перад усім Англія, іх ня споўне?..

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

# ХРОНІКА.

**Беларускі працэс.** У цывільным аддзеле віленскага акружнага суда на 25 лістапада быў вызначаны разгляд позвы ўраду аб высяленьне беларускіх установаў: гімназіі і музэю, а такжа праваслаўнае духоўнае сэмінарыі з Базыльянскіх муроў (Вострабрамская вул. 9) у Вільні.

У тым-жа судзе ўжо даўно разгледжана справа спору паміж праваслаўнай кансісторыяй і полькім урадам аб праве ўласнасьці на гэтыя муры, якія ўрад абвясьціў скарбовай маемасьцяй. Аднак, суд дагэтуль прыгавору ня вынес. Гэта не перашкодзіла польскаму ўраду дамагацца высяленьня з Базыльянаў усіх зьмешчаных тамака ўстановаў, не чакаючы прыгавору суда аб тым, хто-ж па закону зьяўляецца ўласьнікам гэтых муроў.

Беларускія ўстановы, карыстаючыся языковымі законамі, першы раз падалі ў суд узаемныя позвы ў беларускай мове.

Суд, аднак, 25 лістапада не адбыўся. Аказалася, што адвакат Копец, які выступаў ад імя ўраду, пазываў аб высяленьне сэмінарыі праваслаўную кансісторыю. Тым часам аказалася, што сэмінарыя ад кансісторыі не залежыць, бо зьяўляецца мітрапалітальнай і залежыць ад мітрапаліта (варшаўскага), якога і трэба было пазываць. — Тут ужо прадстаўніку ўраду прышлося прасіць адлажыць справу, каб паслаць позву па належнаму адрасу.

Адложаны разгляд і другіх позваў — аб высяленьні беларускіх установаў.

**„Przepisy" для праваслаўнае царквы ў Віленшчыне.** У „Monitorze Polskim" абвешчана, што „przepisy tymczasowe" „аб адносінах ураду да праваслаўнае царквы" ўведзены і на абшары Віленскай эпархіі. Якія гэта „Przepisy" — аб гэтым напішам асобна.

**Няма больш „Вялейкі!"** Пастановай Рады Міністраў гмах былай бальніцы для вар'ятаў у Новай-Вялейцы аддадзены ваенным уладам для патрэбаў гарнізону.

**Даходы скарбу з білёну.** Як ведама, таксваны „білён", або дробныя грошы з медзі, нікелю і серабра, на мэталь варты вельмі мала—шмат менш, чым напісаная на гэтых грошах намінальная сума. Ня кажучы аб менш цэнных мэталях, нават сярэбраныя грошы прадстаўляюць усяго толькі 30 проц. намінальнае вартасьці. Гэтак, пускаючы ў ход дробязь, скарб мае з гэтага вялізарны даход.

Паводле польскіх законаў, скарб мае права выпусьціць гэтулькі білёну, каб на душу выпадала ня больш за 12 злотых. Значыць, уся сума білёну можа быць звыш 300 мільёнаў злотых. Адкінуўшы кошт адбіваньня мэталёвых грошы, польскі ўрад гэткім спосабам зарабляе вялізарную суму. Дагэтуль выпушчана білёну блізу на 150 мільёнаў злотых; значыць, на той год скарб меціме гэтулькі-ж даходу ад выпуску мэталёвых грошы!

Каб заахвоціць народ складаць грошы ў запас (у каго толькі цяпер яны залежываюцца?!), урад на

---

чыць, мы добра ведаем, бо акурат таксама матываваў свае прэтэнсіі на Беларусь і Украіну... п. Дмоўскі ў сваім вядомым мэмарыяле Мірнай Канфэрэнцыі 1919 году...

Паводле франка-гішпанскага трактату 1912 г., Францыя часьць „сваіх правоў" на Марокко, атрыманых... ад сябе самой у „антанце" з Англіяй, —аддала Гішпаніі,—папросту, падзялілася з Гішпаніяй заграбленым гвалтам чужым краем і яго жывым народам. У тым другім трактаце таксама сказана, што „Гішпанія абязываецца пілнаваць... і памагаць" і г. далей у „сваім" Марокко... І Францыя цяпер—ня столькі з трывогай, сколькі з трыумфам—бачыць, як паказывае ўсяму сьвету Гішпанія, што яна ані „пілнаваць бясьпечнасьці", ані „памагаць вайскова ці фінансава" і г. д. свайму Марокко няздольна і ня можа —перад усім дзеля таго, што яе адтуль выгналі...

---

Але-ж гэтага мамэнту толькі і чакала Францыя (а можа й памагала паўстанцам Абдул-Керыма?..), бо ў тайным дадатку да трактату 1904 г. якраз і прадбачана, што, калі Гішпанія, запрошаная да ўчасьця ў трактаце, адмовіцца ад гэтага ўчасьця („адмовілася" цяпер, калі яе выгналі!..), тады ізноў уся тэрыторыя Марокко падпадае пад уладу („пратэктарат") Францыі"...

Дык вось цяпер разумееце, мае паночкі, — чаго „баіцца" ці чаго чакае-не дачакаецца Францыя?—Як толькі гішпанцы аканчальна збанкрутуюць у Марокко і, выгнаныя адтуль, у тым ці іншым міравым дагаворы з Абдул Кэрымам зракуцца сваіх правоў на Марокко, дык зараз-жа свае правы на зямлю і жыцьцё гэройскага народу заявіць (—на падставе ўмовы з Англіяй 1904 г.!)—**Францыя...**

„Трагэдыя"!—кліча ў „Kur. Pol." жаласьлівы р. Żm.,—ідэалёг польскага „моцарствовага" імпэрыялізму...

І вось вельмі характэрна для гэтага „шляхотнага польскага сэрца", — у чым яно бачыць і чуець гэтую „трагэдыю"?!

„Трагэдыя"—у тым, што... Гішпанія ўзяла ў 1912 г. на свае плечы абавязкі не па сваей сіле. І цяпер, „спаўняючы іх да канца, толькі сплыве крывёй і фінансава да рэшты зруйнуецца".

Бедная Гішпанія! яна прымушана вярнуцца назад у Марокко, каб душыць і крывавіць яго насяленьне, бо інакш на яе месца прыдзе Францыя, якая, як пекна кажа той самы „геніяльны жаўнер" у „Times", „не жадае нічога іншага, апроч таго, каб Гішпанія... як найдаўжэй асталася ў сваім Марокко... і здалела правясьці яго „ўспакаеньне"!.. Іншымі славамі: каб абедзьве ваюючыя стораны, як мага больш выпусьцілі адна ў аднэй крыві, каб пасьля ўсё лягчэй дасталася Францыі.

Але можна было-б у кожным разе спадзявацца, што прадстаўнік толькі што здабыўшага сабе незалежнасьць польскага народу дагледзіў у гішпанска-марокскай барацьбе, побач з гішпанскай, яшчэ і іншую трагэдыю—трагэдыю вызваляючагася крывавай барацьбой з агіднай і ганебнай няволі геройскага марокскага народу. Дайшоўшы перамогі цаной страшэнных ахвяраў, марокскі народ бачыць, што на месца пераможанага ворага... становіцца новы, у шмат разоў магутнейшы, які спакойна скарыстае з усіх выгадаў аслабленьня геройскага барацьбіта.

Вось гэтую „нячуткасьць" да гэтай трагэдыі трэба прызнаць найхарактарнейшай рысай нашых часоў: разам з клясычным даваенным „бранірованым хамствам", выяўляўшымся тады ў асобе Вільгэльма II, яна выявілася цяпер у паступаньні англічан у Ягіпце.

Як некалі Вільгэльм багаслаўляў сваіх матросаў, каб бяз жалю рэзалі кітайцаў у Азіі, або нэграў з пляменьня гэрэро ў Афрыцы—так цяпер п. п. Балдвін з Уэмбэрленам уздымаюць над Ягіптам свой „браніраваны кулак", даючы гэтым добры прыклад усяму сьвету.

---

І вось знаёмая нам ад стварэньня сьвету казачка „пра белага бычка", які топча нагамі зялёную траву, пакуль ня пойдзе на чырвоную бойню,—пачынаецца ізноў ад пачатку.

Мы бачылі, што першая чакае сваёй чаргі пайсьці за прыкладам п. Чэмбэрлена саюзьніца Англіі—Францыя.

Ну, а ці-ж можа ў тым адстаць ад сваей магутнай дабрадзейкі і „прыяцелькі" ўдзячная ёй Польшча!?

А што з Англіі „кансэрватар" Балдвін задае тон, якога слухае „радыкал" Эрыо, а праз яго гэты тон перадаецца ў Польшчу, адбіваючыся перадусім на нашых „Крэсах",—абсалютна нічога дзіўнага!—Бо ўсе гэтыя „паны" адчуваюць і разумеюць адну толькі на ўсім сьвеце трагедыю: **як цяжка біць**, калі той, хто здавалася прывык ужо зусім пакорна даваць сябе біць, — **пачынае спраціўляцца**, перастае баяцца, ды пачаў верыць у свае ўласныя сілы і—у сваю будучыну!..

„Będzie gorzej" — так нядаўна над Польшчай пракаркаў прароча чорны крук...

„Ягіпецкая казьнь" павінна, відаць, прайсьці з Захаду на Усход па ўсей зямлі... ня міне яна і нашай зямелькі.

Але трэба прыпомніць адно:

Дзе тыя фараоны, што гнаілі народ над будовай сваіх пірамідаў? Народ-жа гэты — той самы народ—жыве пад тымі-ж пірамідамі, дзе спарахнелі косьці фараонаў, — жыве, як жыў дзесяткі вякоў назад,

Дзе тыя „гэмбэрлены", што яшчэ ня так даўно лічылі Амэрыку англійскай калёніяй, ды ўжо зусім нядаўна лічылі сваей правінцыяй Ірляндыю,—як цяпер лічаць Ягіпет?

Дзе той Вільгэльм, які маніўся зрабіць увесь сьвет „нямецкімі крэсамі"?..

Аб іх усіх толькі памяць асталася ліхая. А вольныя народы ня згінулі і ня згінуць ніколі, бо яны—**сама зямля**—і, як зямля,—**непераможныя!..**

---

„Ягіпецкая казьнь" праміне, хоць можа і ня так хутка... Але „гішпанская трагэдыя" не абміне ў канцы ніводнага з сучасных „паноў сьвету"...

**Вялес.**

